№ 18 (3963)
6 сакавіка 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Паслязаўтра – Міжнародны жаночы дзень!
## Для Вас, мілыя, паэмы пішуцца, музыка чароўная гучыць.
## Віншуем!

*Анатоль ЗЭКАЎ*

## Гімн жанчыне

Усё пачынаецца з Жанчыны:
і слова першае, і крок.
Яна ўсяго першапрычына,
ўсяго аснова і выток.
Яна – выток дабра й пяшчоты,
кахання, веры і надзей.
І не па ёй жыць бестурботна.
Яна ў турботах кожны дзень.
Як цяжка нам – каханнем лечыць,
сваёй пяшчотай і дабром.
Калі ж не ўладзім ёй у нечым,
яна усходзіцца – што гром.
І не спрачайся з ёй. Не раю.
Лепш памаўчы – з плячэй гара.
Яна дабра табе жадае,
а ты ўцякаеш ад дабра.
Яна на ўсё з табою згодна
і ў дні журбы, і ў дні свята,
каб век адно шаптаць:
– Мой родны,
уберагу цябе ад зла,
уберагу ад злых напасцяў,
ад вока злога, злых сяброў.
Няхай мінуць цябе няшчасці –
хай не міне цябе дабро!
І не шукай нідзе прычыны,
як раптам сэрца адтае.
Усё пачынаецца з Жанчыны.
Усё пачынаецца з Яе!



З НАГОДЫ

## Зміцер ВАЙЦЮШКЕВІЧ: “Дзяўчынка ў хаце – гэта свята”

***Напярэдадні 8 Сакавіка вядомы беларускі бард Зміцер ВАЙЦЮШКЕВІЧ распавёў “Народнай Волі” пра жанчын, каханне і сямейнае шчасце.***

**– У адным з анонсаў да вашага канцэрта прачытаў: “Ці шмат жаночых сэрцаў разбіў Зміцер Вайцюшкевіч за сваё жыццё? Ёсць меркаванне, што не менш, чым запісаў альбомаў, а альбомаў у яго столькі, што адной рукой не ўтрымаеш... А магчыма, не ўтрымаеш і дзвюма...”**

– Я стараўся ўсё ж такі быць прыстойным чалавекам, які калі ўжо і разбіваў сэрца, то неяк па-людску. Хоць, шчыра прызнаюся, не заўсёды так атрымлівалася. Былі, натуральна, аперэтачныя і нават драматычныя сюжэты ў маім жыцці. І зараз з вышыні сваіх яшчэ не вельмі старых гадоў гэта выглядае досыць смешна.

**– Ці гарным хлопцам вы былі ў школе, інстытуце?**

– Я пра гэта не ведаў. Здараецца, што бацькі выхоўваюць дзяцей у стылі “Ой, ты мой прыгажун, анёлак!”. Пасля чаго дзіця прыходзіць у школу з такім жа адчуваннем. У мяне такога не было. Я быў, скажам так, ніякі, мяне ніхто не хваліў. Добра яшчэ, што не крычалі, дый не было асабліва за што. Праўда, у дзяцінстве я крыху паліў, у 7-гадовым узросце нават самагонку спрабаваў з мясцовымі мужыкамі, якія закладвалі браму на вяселлі. А наконт усведамлення сябе самога... Гэта пачалося крыху пазней – калі ўжо вусы пачалі прабівацца. Першыя дзяўчаты звярталі ўвагу, і найперш – тая, якую найбольш кахаў. Гэта было каханне ад садка і да школы, адносіны, як у вершы Рыгора Барадуліна: “Якія будуць сніцца, сніцца, сніцца...” Пазней ужо прыйшло разуменне, што на мяне нехта можа звяртаць увагу. Але, пакуль не пачаў іграць на барабанах у школьным ансамблі, пра гэта нават не думаў. А як пачаў – пацягнуліся дзявочыя сэрцы.

**– Чаму першае каханне не перарасло ў нешта большае?**

– Звычайна такія адносіны – дзіцячыя ілюзіі. Можа, у кагосьці яны і перарастаюць у вялікае каханне, але я ў свой час паехаў вучыцца ў Ліду, там былі свае спакусы і пачыналася дарослае жыццё. Я яшчэ доўга шкадаваў, што ў нас не склалася, але зараз, спадзяюся, супакоіўся.

**– Ці былі ў вас як у творчага чалавека крэатыўныя падыходы да знаёмства з дзяўчатамі?**

– Па-рознаму бывала. Здаралася, што сустракаўся поглядам з дзяўчынай і разумеў, што як мінімум на бліжэйшы вечар мы ўжо разам. Нападпітку мог пазнаёміцца з іншай “каралевай”, бо тады бар’ераў для мяне не існавала. А зараз, гледзячы на тое, што адбываецца ў маёй музычнай дзейнасці, стараюся не злоўжываць “артыстычным становішчам”. Пасля канцэрта трэба скручваць шнуры ды везці ўсё гэтае шчасце. А потым ужо магу дазволіць сабе сустрэцца з сябрамі, каб абмеркаваць канцэрт пад нейкую чарку.

**– Але прыхільніц хапала?**

– Давайце я пастараюся захаваць вобраз цнатлівага сямейнага чалавека, які ўжо адумаўся. І зараз, дзякуй Богу, у мяне ля пад’езда ніхто з прыхільніц не дзяжурыць.

**– Пра жаніцьбу ў колькі гадоў пачалі задумвацца?**

– Я наогул не думаў пра гэта – яно само неяк прыйшло. Як кажуць: як стрэслася, так і панеслася. І, калі атрымалася, што патрэбна было ажаніцца, мы гэта зрабілі. Я нікуды не ўцякаў, усё адказна пераносіў... Розныя былі хвалі (маю на ўвазе свае папярэднія афіцыйныя шлюбныя саюзы), таму ёсць аб чым шкадаваць і чаго саромецца. Але спадзяюся, што мой апошні шлюб з Галінай – гэта і ёсць тое самае сямейнае шчасце, аб якім я даўно марыў.

**– Колькі ў вас было ўсяго шлюбаў?**

– Да Галіны я афіцыйна жаніўся два разы. У мяне былі спявачка, мастачка, а зараз – дырыжор хору.

**– Памятаеце сваё першае вяселле?**

– І першае, і другое памятаю, хоць яны былі нешматлюднымі і артыстычнымі. Мы няшмат тады зараблялі. Хоць на першым вяселлі ў нас была чорная машына “Победа”, якая і везла нас, як падавалася, у светлую шчаслівую будучыню. З першай жонкай Веранікай Кругловай да жаніцьбы доўга сустракаліся і па артыстычных мерках пражылі ў шлюбе досыць доўга – каля пяці гадоў. Дарэчы, да гэтага часу падтрымліваем з ёй добрыя адносіны. Гэтак жа, як і з другой жонкай, якая зараз жыве ў Берліне. Спадзяюся, што мы наладзім адносіны са старэйшым сынам ад другога шлюбу, таму што для мяне гэта вельмі важна. Я адчуваю некаторую віну перад ім, перад былой жонкай... Не атрымалася ўбачыць дзіцячыя гады сына... Даводзіцца вучыцца на ўласных памылках.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

УЧОРА

## Алесь Бяляцкі выступіў у ААН

*Віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека, старшыня закрытага беларускімі ўладамі праваабарончага цэнтра «Вясна» **Алесь Бяляцкі** выступіў на 28-й сесіі Савета па правах чалавека ААН у Жэневе.*



У сваім трохххвілінным выступленні Алесь Бяляцкі змог раскрыць важнасць дзейнасці праваабаронцаў і праблемы пераследу праваабаронцаў і сацыяльных актывістаў у Беларусі і свеце. А таксама звярнуў увагу на неабходнасць прымянення мер для іх абароны на міжнародным узроўні.

*“Праваабаронцы сутыкаюцца са шматлікімі перашкодамі ў сваёй дзейнасці. Пастаянна падвяргаюцца пагрозам, нападам, жорсткаму абыходжанню, забойствам, гвалтоўным знікненням, паклёпу, незаконным сачэнням, адвольным затрыманням. Супраць іх накіраваны законы, якія вызначаюць іх легітымную дзейнасць як антыдзяржаўную і якія навешваюць на іх зневажальны, хлуслівы ярлык «замежных агентаў», як гэта робіцца ў Расіі”*, – сказаў праваабаронца падчас выступлення.

Паводле слоў Бяляцкага, нягледзячы на міжнародныя стандарты, прастора для дзейнасці грамадзянскай супольнасці і праваабаронцаў у свеце *“знаходзіцца пад пагрозай ці скарачаецца»*, а *“рэпрэсіўныя рэжымы кідаюць за краты мірных актывістаў па розных сфабрыкаваных абвінавачаннях»*.

Бяляцкі падкрэсліў: у краінах, дзе пераследуюцца правы і свабоды, заявы і рашэнні ААН, якія тычацца правоў чалавека, з’яўляюцца важным палітычным стымулам, які падтрымлівае грамадзян. *“Краінавыя мандаты даказалі сваю аб’ектыўнасць і карыснасць у сітуацыі сістэматычных парушэнняў правоў чалавека. Трыбуну і працу краінавых дакладчыкаў ААН неабходна абараняць і заахвочваць”*, – рэзюмаваў беларускі праваабаронца.

Нагадаем: Алесь Бяляцкі правёў больш за тысячу дзён у папраўчай калоніі і вызваліўся ў чэрвені 2014 года. Яго судзілі за ўтойванне даходаў, але праваабарончыя арганізацыі перакананы, што прычынай крымінальнага пераследу стала грамадская дзейнасць Бяляцкага, у сувязі з чым ён быў прызнаны палітычным зняволеным.

РЭАЛЬНАЯ ЭКАНОМІКА

## Зноў просім крэдыт

У Мінску пачала працаваць місія Міжнароднага валютнага фонду пад кіраўніцтвам Дэвіда Хофмана. У Мінску яна затрымаецца па 16 сакавіка.

Яшчэ у канцы кастрычніка Дэвід Хофман заяўляў, што Міжнародны валютны фонд можа абмеркаваць з Беларуссю новую крэдытную праграму ў выпадку гатоўнасці беларускага ўрада да рашучых крокаў па рэфармаванні эканомікі.

Пад рэфармаваннем мелася на ўвазе прынняце мер у мэтах стрымлівання інфляцыі і скарачэння знешніх дысбалансаў. *«Для гэтага трэба рэзка скараціць дырэктыўнае крэдытаванне і не павышаць заработную плату ў астатні перыяд гэтага года. Ураду неабходна зрабіць больш жорсткай бюджэтна-падатковую палітыку, каб кампенсаваць уплыў высокага квазіфіскальнага дэфіцыту на стымуляванне эканомікі, прычым гэтая жорсткасць павінна быць яшчэ больш адчувальнай, калі дырэктыўнае крэдытаванне не будзе скарочана»*, – падкрэсліваў Хофман.

Учора першы намеснік міністра фінансаў Беларусі Максім Ермаловіч паведаміў журналістам, што новая краінавая праграма супрацоўніцтва Беларусі з МВФ гатова. Што тычыцца магчымай сумы новага крэдыту МВФ, то, паводле слоў Ермаловіча, *“сума выпрацоўваецца ў ходзе перамоў у залежнасці ад ціску на золатавалютныя рэзервы ў перспектыве, аб’ёмаў пагашэння і абслугоўвання валавога знешняга доўгу»*.

Тым часам беларускія аналітыкі мяркуюць, што кіраўніцтва Беларусі пакуль не гатова да структурных змен у эканоміцы, якія рэкамендуе МВФ.

Дарэчы, у МВФ грошы мы ўжо пазычалі. Са студзеня 2009 года па красавік 2010-га Беларусь рэалізавала праграму стэнд-бай, падтрыманую крэдытам МВФ, на 3,5 млрд долараў ЗША. Гэта дазволіла краіне забяспечыць станоўчую дынаміку па шэрагу пазіцый у эканоміцы і грашова-крэдытнай сферы.

ДАРЭЧЫ

### Выплаты працягваюцца...

У гэтым годзе Беларусь павінна накіраваць на выплату знешняга доўгу 3,8 млрд долараў, заявіў міністр фінансаў **Уладзімір Амарын**.

*«Трэба будзе заплаціць інвестарам і крэдыторам 3,8 млрд долараў, з іх пагашэнне асноўнага доўгу – 2,8 млрд»*, – сказаў Ул.Амарын.

ВІНШУЕМ!

## «Ціша»: лепшая кніга Андрэя Федарэнкі



Прэмія «Гліняны Вялес» уручана пісьменніку Андрэю Федарэнку. Ён лічыцца самым цікавым сучасным аўтарам, яго называюць беларускім Чэхавым. У нашай найноўшай літаратуры яго творчасць, несумненна, з’ява першага парадку.

Пятнаццаць гадоў, да 2009 года, «дарослыя» кнігі Андрэя Федарэнкі не выдаваліся, яны, па прызнанні пісьменніка, быццам стаялі ў дысцыплінарнай чарзе – у свет выходзілі толькі аповесці для падлеткаў («Шчарбаты талер», «Афганская шкатулка»). Затое апошнія гады, нягледзячы на тое, што Федарэнка выйшаў з праўладнага Саюза пісьменнікаў, «дамбу» прарвала, і чытач штогод атрымліваў магчымасць сустрэцца з выдатнай прозай беларускага аўтара. Праўда, сёння яго кнігі прозы «Гісторыя хваробы», «Смута», «Нічые» «Мяжа» сталі нават бібліяграфічнай рэдкасцю – прынамсі, у цэнтральных кнігарнях сталіцы іх даўно раскупілі.

**Алена МАЛОЧКА.**

РЭЦЭПТ

## Павялічыць тэрмін адпрацоўкі да пяці гадоў...

Савецкая сістэма размеркавання выпускнікоў, здаецца, адзіны спосаб, якім карыстаецца Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, каб вырашыць кадравы дэфіцыт урачоў у паліклініках. Учора галоўны тэрапеўт **Вольга Маршалка** прапанавала размяркоўваць 100% маладых спецыялістаў на першае працоўнае месца ў арганізацыі аховы здароўя, якія забяспечваюць аказанне пярвічнай медыцынскай дапамогі, прасцей кажучы – у паліклінікі і ФАПы. І зрабіць абавязковую адпрацоўку Маршалка прапаноўвае тэрмінам на пяць гадоў, а не на два (тры для тых, хто мае мэтавае накіраванне), як ёсць зараз.

Сваю пазіцыю чыноўніца патлумачыла так: маўляў, *«добрым спецыялістам ці спецыялістам з пэўным вопытам можна стаць толькі праз пяць гадоў».* На працягу пяці гадоў працы медык атрымлівае катэгорыю, як правіла, другую. Праз гэты час, сказала галоўны тэрапеўт, *«спецыяліста можна адпраўляць аказваць спецыялізаваную дапамогу на ўзровень, дзе патрабуюцца не толькі веды, але і вялікі прафесійны вопыт».*

Вольга Маршалка, праўда, удакладніла, што гаворка ідзе аб перспектыве.

БАЛЕЕМ ЗА НАШЫХ!

## Колькі медалёў “настраляе” Домрачава?

*Учора ў фінскім Канціялахці стартаваў чэмпіянат свету па біятлоне.*



Беларускіх балельшчыкаў у першую чаргу, безумоўна, хвалюе пытанне: “Колькі медалёў на гэтым першынстве заваююць беларуская зборная ў цэлым і трохразовая алімпійская чэмпіёнка Дар’я Домрачава ў прыватнасці?”

Адказы атрымаем зусім хутка, першынство будзе працягвацца амаль тыдзень. Балеем за нашых!..

**Прапануем вашай увазе расклад спаборніцтваў (час – беларускі):**

**7 сакавіка (субота)**
15.00 Спрынт, мужчыны (10 км)
18.30 Спрынт, жанчыны (7,5 км)

**8 сакавіка (нядзеля)**
15.15 Гонка праследавання, мужчыны (12,5 км)
18.00 Гонка праследавання, жанчыны (10 км)

**11 сакавіка (серада)**
19.15 Індывідуальная гонка, жанчыны (15 км)

**12 сакавіка (чацвер)**
19.15 Індывідуальная гонка, мужчыны (20 км)

**13 сакавіка (пятніца)**
19.15 Эстафета, жанчыны (4х6 км)

**14 сакавіка (нядзеля)**
18.30 Эстафета, мужчыны (4х7,5 км)

**15 сакавіка**
15.30 Мас-старт, жанчыны (12,5 км)
18.15 Мас-старт, мужчыны (15 км).

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**P.S.** *Учора ўвечары першынство пачалося са змешанай эстафеты, але, на жаль, графік здачы газеты ў друк не дазволіў нам паведаміць вынікі гэтай гонкі.*

СЛЫШАЛИ?

## Как кур в ощип...

Еще одно предприятие Кобрина попало под финансовый пресс. В отношении ОАО «Кобринская птицефабрика» экономическим судом Брестской области открыто конкурсное производство по делу о банкротстве.

Основным направлением деятельности фабрики было производство куриных яиц, сухих яичных продуктов, меланжа. Занималось предприятие и производством-реализацией мяса птиц и цыплят-бройлеров, а также колбасных изделий. Три года назад коллектив отпраздновал 50-летие родной фабрики, нынче же готовятся отчитываться за свои долги. Первое общее собрание кредиторов назначено на май текущего года.

Ситуация на ОАО «Кобринская птицефабрика» тем более необычна, что в целом птицеводство в Беларуси – отрасль прибыльная.

СВЯТА

## Дзень беларускага пісьменства сёлета пройдзе ў Шчучыне

Пра гэта паведаміла міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч на пасяджэнні Нацыянальнага аргкамітэта.

5 верасня ў Шчучыне плануецца правесці конкурс чытачоў з удзелам беларускіх і замежных пісьменнікаў. У гэты ж дзень адбудзецца і міжнародны круглы стол «Сугучча», у якім возьмуць удзел літаратары з Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Чэхіі, Балгарыі і іншых краін.

6 верасня будуць урачыстасці адкрыцця і закрыцця свята, традыцыйны фестываль кнігі і прэсы, аўтограф-сесіі пісьменнікаў, выставы кніг. Дарэчы дзве з іх пазнаёмяць з перыёдыкай часоў Вялікай Айчыннай вайны, а таксама патрыятычным плакатам, на іх будуць прадстаўлены лепшыя работы па выніках конкурсу сярод моладзі СНД. І, безумоўна, на святе плануецца ўручэнне літаратурных прэмій.

